**С кален падымемо Айчыну нашу мілую і будзем з ёю мы, а з намі будзе Бог!**
**Ларыса Геніюш**

# ЗМАГАР

ВЫДАНЬНЕ СЛОНІМСКАЙ РАДЫ БНФ

ЧЭРВЕНЬ — ЖНІВЕНЬ 1998г. №2 На правах унутранай дакументацыі

# ДОСЫЦЬ ПРЭЗЫДЭНЦТВА!

## Ліст да грамадзянаў Беларусі аб адстаўцы Лукашэнкі

Яшчэ год таму назад я не зьвярнуўся б з такім лістом да беларускіх людзей. Бо яшчэ жыло ў іх перакананьне, што яны зрабілі разумна й правільна, выбраўшы Лукашэнку, што "прэзыдэнту перашкаджаюць", што вінаваты ва ўсім ня ён, а таемныя "ворагі". Відавочна, яшчэ ня ўсе каменьні былі кінутыя і ў мой бок як "ворага прэзыдэнта". Воляй лёсу мне прыходзілася папярэджваць яшчэ ў 80-х гадах аб злачыннасьці КПСС і аб нямінучасьці распаду Савецкага Саюзу. Потым — аб здрадніцтве й прамаскоўскай палітыцы Кебіча, аб небясьпецы расейскага імпэрыялізму, аб пагрозе незалежнасьці й дзяржаўнаму існаваньню нашай краіны, аб задуме аднаўленьня таталітарызму на абшарах былога СССР. Гэта, паўтараю, сказана не цяпер, а два, тры, пяць, дзесяць гадоў назад. Але нашаму грамадзтву, відаць, наканавана спачатку нічога ня ўспрымаць, а потым усё няўспрынятае пераэжыць. І так — бясконца.

Ці не настаў усё ж час прыняць правільнае калектыўнае рашэньне?

Мне скажуць: калі ты думаеш правільна — чаму ж ты не перамог?

Перамога наперадзе. Але справа ня ў гэтым. Я не перамог разам з вамі. Мы разам пацярпелі паразу. У 1994 годзе прымітыўна ашукалі ўвесь беларускі народ. А тыя, хто гэтае ашуканства бачыў і разумеў, нічым не маглі дапамагчы. Колькі ж яшчэ трэба часу, якіх ахвяраў, якіх страт, якіх зьняваг нашай беларускай годнасьці, якога яшчэ трэба пагаршэньня, каб гэтае ашуканства ўсьвядоміць і зразумець? Ці не пара?

**Пытаньне аб немінучай адстаўцы Лукашэнкі зноў пастаўлена Народным Фронтам.** Цяпер ужо ня дзейнічае прававы механізм "імпічманту", бо ўсталяваная дыктатура. Але з дыктатурай можна пасьпяхова змагацца сілавым масавым грамадзкім націскам на дыктатара ва ўсіх сфэрах жыцьця: у палітыцы й грамадзкай дзейнасьці, у навуцы й



*(Працяг на 2 стр.)*

## НАВІНЫ

### Жыве незалежная БНР!

Слонімская Рада Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» працягвае збор заяў за далучэньне да грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), незалежнай дзяржавы, якая ў 1920 г. была акупіравана бальшавікамі і палякамі. Аднак увесь гэты час на эміграцыі дзейнічае Рада БНР, легітымны беларускі ўрад. Апошнім часам у яе склад увайшло шмат маладых патрыётаў, якія ўвактыўнілі дзейнасьць заслужаных змагароў. З 1997 года ідзе акцыя грамадзянства БНР, якая мае найперш сімвалічнае значэньне. Далучыўшыся да яе, мы ня будзем мець болей грошай або каўбасы, аднак у нас ёсьць магчымасьць выказацца такім чынам супраць дыктатарскага, акупацыйнага рэжыму. Мы хочам жыць не ў лука-заказьніку, а ў Вольнай і Незалежнай Беларусі! Таму, сябры, далучайцеся да грамадзянства Беларускае Народнае Рэспублікі! Разам з Беларускім Урадам на выгнаньні мы здольныя адваяваць сваю Бацькаўшчыну!

Жыве Беларусь! Жыве БНР!

### «Вольная Беларусь»

Як падала незалежная прэса, восеньню з Беластока на Беларусь пачне вяшчаць радыё «Вольная Беларусь». Гэтая радыёстанцыя будзе працаваць на сярэдніх хвалях.

Ужо цяпер лукашысты спалохаліся вольнага беларускага слова й паслалі ноту польскаму ўраду. Аднак Польшча, як і ЗША, падтрымваюць беларускую патрыятычную апазыцыю.

**Рыгор ЯРМАЛОВІЧ**

# ДОСЫЦЬ ПРЭЗЫДЭНЦТВА!

## Ліст да грамадзянаў Беларусі аб адстаўцы Лукашэнкі

*(Працяг з 2 стр.)*

мастацтве, у прафсаюзным руху й на працы, на вуліцах і ў друку, нават у быце й штодзенных дачыненьнях.

Усё павінна быць падпарадкаванае адной мэце: “**Лукашэнка, ідзі ў адстаўку!**”

Падтрымлівайце ў гэтых дзеяньнях у палітыцы Беларускі Народны Фронт — Вызвольны Рух, які трымае ў руках нацыянальны сьцяг беларускага Адраджэньня. Падтрымлівайце актыўна. Перад нашай масавай сілай і агульным непрыняцьцём дыктатуры шмат што пачне зьмяняцца. Нават хаўрусьнікі Лукашэнкі стануць ад яго аддаляцца й яго пакідаць. Яго загады перастануць выконваць нават тыя, на каго ён спадзяецца. Зямля паплыве з-пад ног гэтага авантурнага чалавека. **Адстаўка стане рэальнай.**

Аднак, **змагаючыся за адстаўку Лукашэнкі**, мы павінны памятаць, што галоўная наша палітычная задача, якую ўвесь час сьцьвярджае Народны Фронт, і **да чаго мы імкнемся, гаворачы пра адстаўку, — гэта ліквідацыя ўвогуле прэзыдэнцкай сістэмы ў Беларусі й скасаваньне пасады прэзыдэнта.** Беларусь мусіць быць не прэзыдэнцкай, а парляманцкай краінай. Інакш узьнікне новы дыктатар (ці паўдыктатар) і новая маскоўская марыянэтка.

— Чаму? — спытаеце вы. Таму што, па-першае, Маскве й яе спэцслужбам лёгка ўмяшацца й уплываць на ход падзеяў, калі абіраць на найвышэйшую пасаду аднаго чалавека, а не 260. Правёўшы свайго чалавека на беларускі пасад (як гэта лоўка яны зрабілі з Лукашэнкам),



маскоўцы будуць аб'ектыўна зацікаўленыя ў павялічэньні яго ўлады, каб лепш трымаць Беларусь.

Парлямант у 260 асобаў (ды з розных партыяў) ня можа стаць дыктатарам. Гэта шлях да дэмакратыі й школа дэмакратыі для грамадзтва. І трэба ўлічыць, што нашае грамадзтва — постсавецкае. Наш чалавек за часы **расейскай і бальшавіцкай** акупацыі прывучаны слухаць начальства, а не закон. Бо ён жыў пры азіяцкім рэжыме, дзе галоўнаю была ўлада, а не законы, дзе было так, як начальства скажа. Людзі, выхаваныя ў такіх умовах, чакалі й спадзяваліся на добрага начальніка, а не змагаліся за гарантыі ажыцьцяўленьня права, роўнага для ўсіх (для начальнікаў і неначальнікаў). Гэткія грамадзкія акалічнасьці якраз і спрыяюць ажыцьцяўленьню дыктатуры. Шляхам жа да яе ў такіх варунках служыць прэзыдэнцкая сыстэма ўлады. Пра гэта дэпутаты Апазыцыі БНФ папярэджвалі ў 1991 годзе, калі ў атачэньні Кебіча ўпершыню ўзьнікла ідэя прэзыдэнцтва, і ў 1994 годзе, калі Вярхоўны савет галасаваў за Канстытуцыю.

**Пасьля адстаўкі (ці адхіленьня) Лукашэнкі ад пасады адразу павінны быць праведзены парляманцкія выбары.** Выбары новага парляманту па старым недасканалым выбарчым законе будуць, безумоўна няпростыя, але ў цэлым прадказальныя, каб гарантаваць зьмену паламанай парляманцкай рэспублікі. Парлямант фармаваў бы ўрад, і прызначаў бы прэм'ер-міністра, які валодаў бы функцыямі кіраўніка дзяржавы. У выпадку парляманцкага крызысу й немагчымасьці стварыць урад, рашэньне аб роспуску парляманту й новых выбарах прымае Канстытуцыйны Суд. Гэткая традыцыйная парляманцкая сістэма стала б для беларусаў крокам да лепшай будучыні.

Беларускі Народны Фронт прапануе беларусам абапірацца перш за ўсё на саміх сябе й праводзіць такую палітыку, якая забясьпечвала б становішча людзей і ўзровень іх жыцьця, як у эўрапейскіх краінах, а не як у Расеі. Дзеля гэтага й супрацоўнічаць трэба найперш з Эўропай, і рабіць шмат што гэтак, як яны, бо мы, беларусы, — народ эўрапейскі.

Змагаючыся з дыктатурай, мы павінны сваё змаганьне засьведчыць. Гэта пазбаўляе людзей страху й надае ўпэўненасьці, кансалідуе аднадумцаў. **Лукашэнка й яго памагатыя павінны ведаць, што людзі іх не баяцца й адкрыта патрабуюць, каб прэзыдэнт ішоў у адстаўку. Прапаную сьмела далучацца да ініцыятывы Беларускага Народнага Фронту аб адстаўцы Лукашэнкі й ліквідацыі дыктатуры ў Беларусі.**

**Старшыня Беларускага Народнага Фронту “Адраджэньне” Зянон ПАЗЬНЯК**

# СТРАХ

Гляджу на нашых слонімцаў і часта бачу ў іхніх вачах страх. Страх у вачах пакупніка, які прыйшоў у прадуктовы магазін. Яго палохаюць высокія цэны, асабліва ў мясным аддзеле. Каля апетытных каўбас, нібы жаўнеры на варце, у чаканьні застылі прадаўцы, а пакупнікі, спалохана пазіраючы, таропка праходзяць далей.

Страх пасяліўся й у вачанятах першакласьніка. Ён ужо разумее, што вучыцца цяжка, бо праграмы перагружаныя, а настаўнікаў нервуюць бязконцыя праверкі. Старшакласьнікаў штодзень чакаюць сем, восем, а то і дзевяць урокаў. Прэтэндэнт на медаль баіцца, што раптам за чвэрць атрымае чацьвёрку, якая адразу перакрэсьліць ягоную блакітную мару. Над галавой слабапасьпяваючага, як дамоклаў меч, вісіць двойка, якая, мабыць, іншы раз і ў сьне яму нашэптвае: «Застанешся на другі бок». Пакуль ідзе праверка хатняга заданьня, троечнік ціхенька сядзіць, угнуўшы галаву ў плечы.

Вечарам мы баімся выйсьці на вуліцу. Цемень, толькі дзе-нідзе, як вочы ваўка, мігцяць ліхтары. Яны не радуюць, не супакойваюць, а чамусьці прымушаюць сьціскацца, наганяюць страх. Людзі сталага ўзросту, уздыхаючы, успамінаюць: «Раней я да самага ранку па Слоніме, нікога не баючыся, мог хадзіць».

Страшна выпускніку школы, вучылішча, бо ён ня ведае, што яго чакае за парогам школы ці вучылішча. Страшна пенсіянерам, бо ён душой адчувае: за месяц зноў абясцэніцца ягоная пенсія.

І толькі кіраўнікі, ці, як іх называюць у народзе, начальнікі ня ведаюць страху. Гэта тая катэгорыя жыхароў, якая наганяе страх. Ці заўважылі вы, што ў апошні час многія кіраўнікі абнавілі свае кабінеты: абсталі іх новай мэбляй, прывезьлі тэлевізары, халадзільнікі і т. п. Для чаго гэта робіцца? А каб на наведвальніка нагнаць большага страху, каб ён адчуў, што ўвайшоў не проста ў кабінет, а ў нейкі своеасаблівы храм, дзе ідалам — начальнік. Няхай страх цяжарам ціснье на плечы, няхай прымусіць сагнуцца перад ідалам і нават скруціць у тры пагібелі.

Сёньняшняя сталічная ўлада начальнікам рознага ўзроўню дала добры бізун. Гэта і прэміяльныя (у настаўнікаў, напрыклад, іх раней не было), і так званае матэрыяльнае заахвочваньне за добрую працу. Гэтым бізуном сякуць няўгодных, непаслухмяных, наравістых. Людзі мусяць сядзець апусьціўшы галаву, размаўляць наўслых, а шэптам. Страх нарадзіў даношчыкаў, паклёпнікаў, падхалімаў. «А што ж застаецца рабіць? — часам разважаюць яны, апраўдваючы саміх сябе. — Трэба трымацца за кавалак хлеба».

Страх! На выбарах мы самі яго выбралі, аддаўшы ўсю ўладу начальнікам. І страх пакрыху есьць нас, як іржа есьць жалеза. А не лепш выкінуць страх з галавы і сэрца?! Горш ужо ня будзе, а лепей стане напэўна.

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

# ЗАЯВА ПРЭЗЫДЫУМУ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ «АБ ГРАМАДЗЯНСТВЕ БНР»

Рада БНР як носьбіт ідэі незалежнасьці Беларусі ўгрунтаванай на ўстаўных граматах Рады БНР і Акце 25 сакавіка 1918 году, вітае ўсіх прыхільнікаў гэтай ідэі. Людзі, што працуюць на карысьць ужыцьцяўленьня ідэі беларускае дэмакратычнае дзяржаўнасьці, маюць аснову ўважаць сябе за грамадзянаў БНР.

Такое сымбалічнае грамадзянства набывае маральнае й палітычнае значэньне, бо процідзеяць нацыянальнай здрадзе, якую праводзіць рэжым дыктатара Лукашэнкі і спрыяе ўмацаваньню і пашырэньню руху за ўсталяваньне дэмакратыі ў Беларусі і адраджэньне беларускае культуры ды ўмацаваньне свабоды разьвіцьця культуры нацыянальных мяньшыняў на Беларусі.

**Нью-Ёрк, 13 сакавіка 1998 г.**



***На здымку**: Вязьні лукашэнкаўскага рэжыму, актывісты «Маладога фронту». Гэтых юнакоў трымае за кратамі «народны» прэзыдэнт.*

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# ШТО ДАЛЕЙ?

Жыву я ў Слоніме амаль дзесяць гадоў. Тры гады таму ажаніўся, набыў невялічкую хатку. стаў па-троху абжывацца. Але ці магчыма цяпер маладым сем'ям гэта зрабіць? З кожным днём растуць цэны, а заробак мізэрны, добрааплочваемую працу знайсьці цяжка. У апошні час абклалі людзей усялякімі падаткамі й страхоўкамі. Вось і да мяне спачатку прыйшлі прымусова страхаваць маёмасьць, а потым прыйшлі апісваць агародніну і садавіну, якую я вырошчваю на сваёй сядзібе. Праз пэўны час зноў за нечым прыйдуць, магчыма за ўраджаем?..

Ці будзем плаціць за тое, што дыхаем паветрам і крочым на сваёй роднай зямлі? Ці магчыма так жыць? Дакуль з нас будуць зьдзеквацца?!

З павагай да ўсіх сумленных людзей нашай роднай зямлі, якія вераць у нашу шчасьлівую будучыню

**Макар ШЫЛА**

# САМАКІРАВАНЬНЕ ВЫРАШЫЦЬ ПРАБЛЕМЫ

Прэзідэнцкая вертыкаль на нашым гарадзкім і раённым узроўні — гэта бюракратычны чыноўніцкі апарат, які цалкам залежыць ад прэзідэнта Лукашэнкі (дарэчы, яна ім і прызначаецца) й ніякім чынам непадсправаздачны насельніцтву.

Мясцовае самакіраваньне прадугледжвае незалежнасьць яго ад другіх органаў улады і адказвае толькі перад судом і сваімі выбаршчыкамі. Такім чынам яно зьяўляецца супрацьлегласьцю дзяржаўнаму троеўладзьдзю г. зн. той уладай, якая разам са сродкамі масавай інфармацыі ажыццяўляе кантроль і аказвае ўплыў на выканаўчую і заканадаўчую галіны ўлады. Таму тыя, хто мае ўладу, не хочуць самакіраваньня. Бюракрат мае сілу, калі ён нікому, апрача свайго брата-бюракрата непадсправаздачны. Апрача гэтага, самакіраваньне адымае ў дзяржаўнага чыноўніка ільвіную долю магчымасьцяў размяркоўваць і вырашаць не на карысьць большасьці насельніцтва.

Зыходзячы з нашых рэалій жыцьця, ужо цяпер неабходна па прыкладу другіх гарадоў і нашага слонімскага мікрараёна «Энка», ствараць свае органы самакіраваньня ў мікрараёнах. Колькі нязручнасьцяў перажываюць Рышчыцы ад дажджоў і паводкі! І ніхто з начальства мясцовага і брывом не павядзе , каб пачаць вырашаць гэтыя праблемы.

І так будзе, пакуль людзі не пачнуць ствараць уласныя органы мясцовага самакіраваньня, якія будуць кантраляваць, куды ідуць бюджэтныя сродкі. А з дапамогай свайго друкаванага органа мы прымусім мясцовую вертыкаль павярнуцца тварам да праблем простага чалавека, а не тых, хто пабудаваў сабе шыкоўныя катэджы.

**Мікалай РАКЕВІЧ**

# БНФ ПАТРАБУЕ ВЫВАДУ РАСЕЙСКІХ ВОЙСКАЎ З БЕЛАРУСІ

Кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту выступіла з заявай наконт нядаўняй адмовы расейскай Дзярждумы ратыфікаваць двухбаковае пагадненьне аб парадку вываду расейскіх войскаў з саставу стратэгічных сіл, часова разьмешчаных на тэрыторыі Беларусі, на тэрыторыю Расеі.

«За цынічнымі гульнямі ў расейска-беларускую інтэграцыю, — гаворыцца ў заяве, — бачна непрыкрытае імкненьне расейскіх імпэрыялістаў з поўнай згоды Лукашэнкі паўторна акупіраваць Беларусь...» БНФ патрабуе поўнага вываду расейскіх войскаў з беларускай зямлі.

# ПАВАЖАНЫЯ СУАЙЧЫНЬНІКІ!

Многія з нас верылі, што А. Лукашэнка выканае свае абяцаньні і «запустит заводы, победит коррупцию», пры гэтым «цены не будут расти», а «все воры будут сидеть в тюрьме».

Ці зрабіў ён хоць што з таго, што абяцаў? Не! Стала яшчэ горш!

Сёньня Лукашэнка гандлюе нашай незалежнасьцю. Ужо цяпер з Расеі нам ідуць «падарункі» — бандытызм, мафія, наркаманія. Можа стацца й так, што нашы хлопцы паедуць класьці свае галовы на Каўказ ці куды яшчэ — за расейскія інтарэсы.

**Таму Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» пачаў збор подпісаў за адстаўку Лукашэнкі з пасады прэзыдэнта РБ.** Кожны, хто любіць нашу Бацькаўшчыну, незалежна ад веравызнаньня, нацыянальнасьці, палітычных поглядаў павінен знайсьці ў сабе мужнасьць і **патрабаваць адстаўкі Лукашэнкі.** Хопіць жаліцца адзін аднаму як цяжка жывецца.

25 сакавіка 1918 года беларусы абвясьцілі Беларускую Народную Рэспубліку (БНР). Сёлета мы адзначаем васьмідзесятыя ўгодкі аднаўленьня Беларускай дзяржаўнасьці. Мы, нашчадкі змагароў за незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны, павінны зразумець, што за сваю будучыню, будучыню дзяцей і ўнукаў трэба змагацца. Але законным, канстытуцыйным шляхам.

**Паставіўшы подпісы за адстаўку Лукашэнкі**, мы засьведчым сваю чалавечую і нацыянальную годнасьць. мы ня горшыя за немцаў у Нямеччыне, рускіх у Расеі, палякаў у Польшчы. Мы — Беларусы, гэта наша зямля!

Уступайце ў Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне», падтрымлівайце Фронт маральна і матэрыяльна.

Абаронім наш Дом — Беларусь, нашу Бацькаўшчыну—Маці!

Жыве Беларусь! Жыве вечна!

**Адрас сядзібы БНФ «Адраджэньне»:**
**220005, г. Мінск, вул. Варвашэні, 8.**
**Тэл/факс у Менску 233-50-12.**

ЗМАГАР

Выданьне Слонімскай Рады БНФ.
Выходзіць з 1998 г.

Рэдактар Паўлюк ДУБІНА
Наклад 199 паасобнікаў.